ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК
ВЕРАСЕНЬ, 2011
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

“Будзем настойваць, каб Бяляцкаму змянілі меру стрымання”
СТАР. 3

3 гісторыі арганізацыі “Вясна”: 15 гадоў перасьледу
СТАР. 4

# ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ
## НА АРЫШТ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

**4 жніўня 2011 года ў Менску быў затрыманы і ўзяты пад варту старшыня Праваабарончага цэнтру “Вясна”, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі. Здарылася тое, што, напэўна, не магло не здарыцца з кіраўніком адной з найбольш актыўных праваабарончых арганізацыяў ва ўмовах жорскага аўтарытарызму, у якіх знаходзіцца Беларусь на працягу апошніх 17 гадоў.**



Праваабаронца Стэфановіч

Аднак пры гэтым узнікае шэраг пытанняў: чаму гэта адбылося зараз, а не, скажам, у 2006-ым ці 2008-ым гадах? Тым больш, што фармальная падстава для крымінальнага пераследу Алеся і іншых сябраў “Вясны” з 2006-га заўсёды была пад рукой сумнавядомы артыкул 193.1 Крымінальнага кодэкса. Балазе, ні Алесь, ні я, ні іншыя сябры “Вясны” не хавалі, што працягваюць дзейнасць у межах арганізацыі, нягледзячы на яе ліквідацыю Вярхоўным Судом Беларусі ў 2003 годзе.

Тое, што Праваабарончы цэнтр “Вясна” аказвае ў тым ліку і матэрыяльную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў і парушэння правоў чалавека, ні для каго не было сакрэтам. Пра месца знаходжання офіса “Вясны” ведаюць практычна ўсе грамадска-палітычныя актывісты краіны, якія патраплялі пад пераслед з боку ўладаў. За 15 гадоў свайго існавання ПЦ “Вясна” аказаў дапамогу тысячам беларусаў. Пра гэта ведаюць сваякі палітвязняў, сваякі зніклых у 1999-ым годзе палітыкаў, тысячы беларусаў, якія падвяргаліся розным адміністратыўным спагнанням за сваю грамадска-палітычную дзейнасць.

Падчас падзеяў 2006-га, постснежаньскіх падзеяў 2010-га і лета 2011-га ПЦ “Вясна” засведчыў, што можа дзейсна аказваць дапамогу рэпрэсаваным нават ва ўмовах, калі гэтыя рэпрэсіі набываюць масавы характар.

Падчас маўклівых акцыяў пратэсту менавіта ў ПЦ “Вясна” былі перададзеныя грашовыя сродкі, сабраныя грамадзянамі у дапамогу рэпрэсаваным удзельнікам акцый. Для мяне асабіста гэта было праявай поўнага і абсалютнага даверу да арганізацыі з боку беларускай грамадзянскай супольнасці і пацверджаннем высокага аўтарытэту “Вясны” ў Беларусі. Усе апошнія месяцы на офісе “Вясны” не сканчаўся наплыў людзей, якія былі арыштаваныя ці ашрафаваныя за тое, што пасмелі пляскаць у далоні на вуліцах родных гарадоў. Прычым працавалі мы і працягваем працаваць фактычна адкрыта, нікуды не хаваючыся. Ведалі пра гэта і спецслужбы краіны. Недарэмна падчас апошніхператрусаў на офісе “Вясны” і асабістай кватэры Бяляцкага супрацоўнікаў КГБ цікавілі выключна фінансавыя дакументы: распіскі, квітанцы і г.д. Таму логіка ўладаў мне падаецца тут абсалютна зразумелай. Летнія “маўклівыя акцыі” засведчылі пра павелічэнне пратэстных настрояў у грамадстве, асабліва на фоне эканамічнага крызісу, ахапіўшага краіну. Улады знаходзяцца ў прадчуванні “гарачай” восені, зімы, а, магчыма, і вясны 2012 г.

Знішчэнне структуры, якая аказвае рэальную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў, у дадзенай сітуацыі прыярытэт для спецслужбаў. У “Вясне”, якая так доўга муляла ім вочы, беларускія улады ўгледзелі сур'ёзную пагрозу. Прычым настолькі сур'ёзную, што, нават разумеючы і ведаючы пра вялікі негатыўны розгалас і магчымыя не менш негатыўныя наступствы, вырашылі-такі ізаляваць Бяляцкага. А гэта не жарты - узяць ды пасадзіць дзейнага віцэ-прэзідэнта адной з найстарэйшых і уплывовых міжнародных арганізацый Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека.

**(працяг на 2 стр.)**

### Адзіны з жывых аўтараў дэкларацыі правоў чалавека паручаецца за Бяляцкага

*Ганароваму прэзідэнту Камітэта сябраў Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Стэфану Эсселю жыццё падрыхтавала найскладанейшыя выпрабаваньні: змагар французскага і ангійскага Руху Супраціўленьня пад час Другой сусветнай вайны патрапіў у Бухенвальд, дзе яго павінны былі расстраляць, аднак з дапамогай іншых зняволеных выжыў і змог уцячы. Адразу пасьля вайны ён увайшоў у склад экспертаў ААН па складаньні Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятай большасцю краінаў-удзельніц ААН у 1948 годзе.*

*Пад час працы ў ААН Эссэль выступаў пасярэднікам пад час урэгуляваньня дэкаланізацыйных канфліктаў у розных краінах свету, шмат год працаваў дыпламатам. Але адным з найважнейшых прыярытэтаў ягонай дзейнасьці заўсёды застаецца абарона правоў і свабод людзей ва ўсім сьвеце.*

*Нягледзячы на свой узрост (нарадзіўся Эссель у 1917 годзе) ён і дагэтуль актыўна адсочвае сітуацыю з праваабаронцамі ў многіх краінах свету і арышт Алеся Бяляцкага не мог пакінуць яго раўнадушным.*

# Валянцін Стэфановіч
## На арышт Алеся Бяляцкага

(пачатак на 1 стр.)

Улады пайшлі на гэтыя крокі, прычым адразу пасля менскіх падзеяў 19 снежня 2010 г. Менавіта з гэтага дня пачаўся асаблівы інтарэс спецслужбаў да "Вясны" два ператрусы на офісе, ператрусы на асабістай кватэры і лецішчы Алеся. Усяго за апошнія сем месяцаў офіс "Вясны" перажыў пяць уварванняў прадстаўнікоў міліцыі і КГБ. А чаго вартая пастаянная дэфамацыя Бяляцага і "Вясны" ў дзяржаўных СМІ. Вядома, што "Вясна" і асабіста Алесь Бяляцкі прынцыповыя і жорскія крытыкі дзеючага рэжыму. Бяляцкі неаднаразова заклікаў да жорсткіх санкцыяў з боку ЕС у дачыненні да рэжыму Лукашэнкі - у сувязі з сістэматычнымі і грубымі парушэннямі правоў чалавека ў краіне. Адзін з такіх выступаў Бяляцкага ў ПАСЕ выклікаў асабліва негатыўную рэакцыю Лукашэнкі і дзяржаўнага тэлебачання. Пасля гэтага мне здалося, што расправа над Алесем - гэта пытанне часу…

> "Мы маем пераканаўчыя доказы таго, што дадзеныя грошы не з'яўляліся асабістым даходам Бяляцкага"

Трэба адзначыць, што ўлады даўно і грунтоўна рыхтаваліся для гэтай "спецаперацы". Прычым прапрацоўвалі розныя варыянты яе практычнага ажыццяўлення. Ад ужывання артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса ў дачыненні, найперш, да кіраўніка арганізацыі "Вясны" (пра што сведчыць папярэджанне Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, вынесенае Алесю Бяляцкаму ў лютым гэтага году) да іншых магчымых варыянтаў. І гэты іншы магчымы варыянт быў прадастаўлены спецслужбам Беларусі Мінюстам суседняй Літвы. Вядома, варыянт адправіць Бяляцкага за краты за нібыта ўтойванне падаткаў мае значна больш перавагаў для ўлады, чым ужыванне відавочна палітычнага 193.1 КК. Беларускай і міжнароднай грамадскасці заўсёды можна паспрабаваць растлумачыць, што арыштаваны не праваабаронца, а звычайны "укланіст", які чамусьці не хацеў сплочваць у бюджэт роднай дзяржавы падаходны падатак з замежнай дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій гэтай жа дзяржавы.

Інфармацыя аб нашых банкаўскіх рахунках у Вільні была перададзеная Мінюстам Літвы ў Беларусь яшчэ ў сакавіку гэтага году. Толькі напрыканцы чэрвеня я і Алесь былі выкліканыя ў раённыя аддзяленні Міністэрства па падатках і зборах, дзе нам былі прад'яўленыя акты камеральных праверак і раздрукоўкі банкаўскіх рахункаў. Прычым на ўсіх дадзеных раздрукоўках стаялі штампы ДФР. Такім чынам, фармальна ДФР мог узбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да Алеся як мінімум у чэрвені на пачатку ліпеня. Аднак не ўзбудзіў. Прычым ні мне ні Алесю не было абмежавана права на выезд за межы краіны, хаця фармальныя падставы для гэтага былі. У Алеся складалася ўражанне, што ўлады адмыслова праз падатковую інспецыю паказалі яму гэтыя дакументы - даючы такім чынам час на роздум. Вядома, для ўладаў Беларусі было б лепей, калі б Бяляцкі сам вырашыў іх праблему - выехаўшы за мяжу, эміграваўшы пад пагрозай крымінальнага пераследу. Скажу шчыра, што мы, сябры Рады ПЦ "Вясна", прапаноўвалі яму такі варыянт, паколькі прадбачылі магчымае развіццё падзеяў. Аднак Алесь адмёў нашыя прапановы. Ён сказаў, што ніколі не з'едзе з краіны і калі ўлады хочуць пасадзіць яго ў турму за тое, што ён дапамагае людзям, то гэта праблема ўладаў.

Аднак зараз у следства складаная задача. Ім трэба даказаць, што сумы грошай, пералічаныя на рахунак Бяляцкага, з'ўляліся яго асабістым даходам. Згодна з нашым падаткавым заканадўствам, менавіта даход падлягае падаткабкладанню. У дадзеным выпадку гэтыя грошы паступалі на канкрэтна акрэсленыя фондамі мэты і расходваліся выключна на іх. Мы маем пераканаўчыя доказы таго, што дадзеныя грошы не з'яўляліся асабістым даходам Бяляцкага. Хоць наўрад ці гэтыя доказы будуць пераканаўчымі для нашых суддзяў, якія ўжо даўно ператварыліся ў "хлопчыкаў і дзяўчынак па выкліку" для абслугоўвання чарговых "хапуноў"-сілавікоў. Суд у Беларусі - рэч вельмі прадказальная.

Я ўсведамляю, што арышт Бяляцкага - гэта не апошнія захады ўладаў у дачынні да "Вясны". Калі задача ўладаў заключаецца ў разгроме арганізацыі, то гэта вымагае новых і новых арыштаў. Аднак лепшае, што зараз мы можам зрабіць для Алеся, гэта захаваць дзеяздольнасць арганізацыі. Мы павінны прыкласці намаганні, каб дапамога ахвярам рэпрэсій не спынялася, як і іншыя накірункі нашай дзейнасці. За 15 гадоў свайго існавання мы пабачылі і зведалі рознае. Мы мусім ісці наперад, бо людзям патрэбная нашая дапамога, бо мы патрэбныя людзям. Як кажуць на Усходзе, "Прокопов лает, а караван идёт". Мы будзем змагацца за вызваленне ўсіх палітвязняў, за вызваленне Алеся. І я проста ўпэўнены, што мы хутка ўсіх іх пабачым на волі.

А "таварышам чэкістам і лукашыстам" я хацеў бы сказаць, што вы падавіцеся Бяляцкім і мы, "вясноўцы", прыкладзем для гэтага ўсе свае намаганні.

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ**

# Amnesty International: Беларусь павінна вызваліць Бяляцкага

*«Беларусь мае права пакараць ўхіленьні ад выплаты падаткаў як злачынства. Але абвінавачваньні супраць Алеся Бяляцкі зьяўляюца палітычна матываванымі. Ён зьяўляецца вязьнем сумленьня, затрыманым за працу па абароне правоў чалавека, і ён павінен быць неадкладна вызвалены», - сказаў Хізэр Макгіл, дасьледчык Беларусі ў Amnesty International.*

*«Адмаўляючы НДА ў рэгістрацыі, не даючы ім функцыянаваць адкрыта, улады Беларусі не пакінулі такім актывістам, як Алесь Бяляцкі, іншага выбару, акрамя выкарыстаньня для фінансаваньня іх працы банкаўскіх рахункаў у суседніх краінах, - гаворыцца ў заяве Amnesty International. - Затрыманьне Алеся Бяляцкага зьяўляецца часткай сыстэмы пераследу актывістаў грамадзянскай супольнасьці і абаронцаў правоў чалавека, якая ўзмацнілася пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у сьнежні 2010 году».*

**Радыё Свабода**



## Леанід СУДАЛЕНКА: «Будзем настойваць, каб Бяляцкаму змянілі меру стрымання»

*Пастанову следчай аддзелу папярэдняга расследаваньня УДФР Тацьцяны Касынкінай праваабаронца Леанід Судаленка лічыць незаконнай і неабгрунтаванай. Ён кажа, што ў адмове не тлумачыцца, на якой канкрэтна падставе нельга зьмяніць меру стрыманьня для зняволенага праваабаронцы.*

- «Дэпартамэнт фінансавых расследаваньняў не раскрывае прычыны адмовы, а толькі канстатуе здзейсьнены факт: мера стрымання для Алеся Бяляцкага гэта заключэньне пад варту. Акрамя таго, у пастанове следчай не тлумачацца падставы менавіта для гэткай меры стрымання і на якой падставе нельга адпусціць праваабаронцу пад асабістую заруку. Асабіста ведаючы Алеся Бяляцкага як прыстойнага і законапаслухмянага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, я ўпэўнены, што ён ня стане хавацца ад органаў крымінальнага пераследу і суду, а таксама чыніць перашкоды ў расследаванні крымінальнай справы», кажа спадар Судаленка.

Звяртаючыся ў Менскую пракуратуру, гомельскія праваабаронцы падкрэсьлівалі, што гатовыя несці матэрыяльную адказнасць, калі Бяляцкі парушыць правілы зарукі.

Пасля арышту Алеся Бяляцкага пададзена каля 800 хадайніцтваў беларускіх грамадзянаў і аўтарытэтных замежных дзеячаў, якімі яны гарантуюць, штот Бяляцкі ня будзе ўцякаць ад следства ў выпадку вызвалення з-пад варты.

Толькі з гомельскага рэгіёну было пададзена звыш 60 асабістых хадайніцтваў за вызвалення Алеся Беляцкага з пад варты, якія падпісалі праваабаронцы, грамадскія ды палітычныя актывісты.

Асабістая інфармацыя рэдакцыі сайту **gomelspring.org**

## **Вясна:** *Калі ёсьць палітзьняволеные, дыялёг немагчымы*

"Вясна" лічыць, што "пачынаць перамовы немагчыма безь неадкладнага і безумоўнага вызваленьня і поўнай рэабілітацыі ўсіх палітзьняволеных, у тым ліку асуджаных да пазбаўленьня волі ўмоўна ці з адтэрміноўкай выкананьня прысуду, а таксама аднаўленьня на працы рэпрэсаваных адвакатаў". “Вясна" адзначае, што дадзеныя патрабаваньні "ня ўмова дыялёгу, а ўмова для пачатку дыялёгу, без выкананьня якой ён проста немагчымы”.
Аўтары заявы таксама перакананыя, што дыялёг нельга пачынаць, пакуль ня будзе свабоды мірных сходаў, асацыяцый, свабоды слова і выказваньня меркаваньняў, а таксама зьмены выбарчага заканадаўства. "Адсутнасьць ва ўладаў палітычнай волі да правядзеньня рэальнага перамоўнага працэсу, скіраванага на дэмакратызацыю краіны, будзе азначаць чарговыя палітычныя гульні рэжыму. Лукашэнкі", - гаворыцца ў заяве.
29 жніўня А. Лукашэнка заявіў, што гатовы правесьці круглы стол з удзелам прадстаўнікоў Эўразьвязу і Расеі, а таксама палітычных сілаў унутры краіны, "да якога б палітычнага лягеру яны ні належалі".

**Радыё Свабода**

# Праваабарончы цэнтр “Вясна”: **15 гадоў перасьледу**

Ад моманту свайго **стварэньня ў 1996 годзе** праваабарончая арганізацыя “Вясна-96”, а затым і праваабаронцы цэнтр “Вясна”, метадычна і бязлітасна перасьледваліся беларускімі ўладамі. Праз затрыманьні , збіцьцё, ператрусы, арышты і штрафы прайшлі ўсе сябры гэтай арганізацыі. Поўны пералік фактаў перасьледу заняў бы не адзін дзесятак старонак. Аднак найбольш часта “маланка дзяржаўнага гневу” трапляла ў найвышэйшую кропку арганізацыі яе кіраўніка Алеся Бяляцкага.

**У 1998 годзе “Вясна-96”** ліквідаваная рашэньнем Упраўленьня юстыцыі Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

**9 лістапада 1998 г.** суд Партызанскага раёна Менску вынес папярэджаньне старшыні Праваабрончага цэнтру «Вясна-96» Алесю Бяляцкаму за тое, што ён прысутнічаў на акцыі 5 лістапада, арганізаванай Свабодным прафсаюзам (СПБ) у якасьці назіральніка. 15 чэрвеня 1999 г. зарэгістраванае Грамадзкае аб'яднаньне “Праваабарончы цэнтр “Вясна”.

**4 кастрычніка 1999 г.** ў кватэру на вул. Кісялёва, дзе месьціўся Праваабарончы Цэнтр «Вясна», уварваліся супрацоўнікі Цэнтральнага РАУСу г. Мінску і людзі ў цывільным. «Агляд» кватэры з элементамі вобыску доўжыўся з 18 да 22 гадзінаў. У выніку «агляду» былі канфіскаваныя два кампутары, два прынтары, сканер, ксеракс, мадэм і ўсе асобнікі бюлетэняў «Права на волю» на трох мовах.

**12 лістапада 1999 г.** ў суд Цэнтральнага раёну г. Мінску ў якасьці «парушальніка» быў выкліканы старшыня Праваабарончага Цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі. Яму было прад'яўленае абвінавачаньне па арт. 172 прым. ч. 2. «незаконны выраб і распаўсюджаньне друкаванай прадукцыі.

На судзе А. Бяляцкі здолеў давесьці, што ў пратаколе канфіскацыі, складзеным **4 кастрычніка** пасьля вобыску ў офісе «Вясны», не была ўказаная колькасьць канфіскаваных бюлетэняў, што сам пратакол з указаньнем колькасьці быў складзены толькі ў РАУСе Цэнтральнага раёну. У выніку суд быў адкладзены.

(працяг на 4 стр.)

**8 лістапада 1999 г.** каля 16-ай гадзіны ў Цэнтральным РАУСе г. Мінску быў затрыманы старшыня Праваабарончага Цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі. Ён разам з супрацоўнікамі Цэнтру прыехаў сюды дзеля таго, каб забраць уласны кампутар, які быў канфіскаваны разам з іншай аргтэхнікай падчас гвалтоўнага вобыску 4 кастрычніка гэтага году. Алесь Бяляцкі быў затрыманы і адвезены ў Савецкі РАУС.

## ВЯСНА праваабарончы цэнтр
## 15 гадоў перасьледу
(Працяг, пачатак на 3 стар.)

Ягонае затрыманьне дзяжурны матываваў тым, што ён быў адным з заяўляльнікаў акцыі 17 кастрычніка «Марш Свабоды» і што ён абвінавачваецца ў парушэньні Арт. 167.1 ч.2 КаАП РБ (арганізацыя несанкцыянаванага шэсьця). Пратрымаўшы ў РАУСе больш за 3 гадзіны, А. Бяляцкага адвезьлі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік.

**10 сьнежня 1999 г.** Алесь Бяляцкі за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, прысвечанай гадавіне прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека арыштаваны на 15 сутак.

**2 красавіка 2001 г.** старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі быў асуджаны судом Цэнтральнага раёну г.Мінску на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Ён быў затрыманы 25 сакавіка пасьля заканчэньня акцыі, прысьвечанай Дню Волі.

**У ліпені 2003 г.** пачата пятая праверка дзейнасьці Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр" Вясна ". Чатыры папярэднія праверкі тычыліся абласных аддзяленняў грамадскага аб'яднання. Міністэрствам юстыцыі арганізавана поўная праверка статутнай дзейнасці Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр" Вясна".

**28 кастрычніка 2003 г.** Вярхоўны суд Беларусі прыняў рашэнне аб ліквідацыі «Праваабарончага цэнтра" Вясна ". Падставай для закрыцьця стала папярэджаньне Мінюста аб парушэнні праваабаронцамі выбарчага заканадаўства падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 года. У знак пратэсту і нязгоды з судовым рашэннем Алесь Бяляцкі, Уладзімір Лабковіч, Валянцін Стэфановіч, Алег Жлутко, Уладзімір Вялічкін, Мікола Лемяноўскі, Зьміцер Салаўёў і Аляксей Колчын селі на падлогу ў судовай зале і пачалі скандаваць «Ганьба!». Акцыя пратэсту працягвалася да 17.30. Калі сцямнела, супрацоўнікі міліцыі ў цывільным заламалі рукі ўдзельнікам акцыі, вывелі іх праз унутраны дворык і даставілі ў Ленінскі РУУС Мінска, дзе былі складзеныя пратаколы па арт.166 Адміністрацыйнага кодэксу - "непадпарадкаваньне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі". Праваабаронцам выпісалі позвы ў суд на 29 кастрычніка і адпусьцілі каля 10 гадзін вечара дадому.

**10 сьнежня 2005 г.** у гадавіну прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека амапаўцы збілі і затрымалі ў Менску праваабаронцаў Алеся Бяляцкага і Валянціна Стэфановіча.

**23 жніўня 2007 г.** адмоўлена ў дзяржаўнай рэгістрацыі Грамадзкаму праваабарончаму аб'яднаньню «Вясна».

**26 кастрычніка 2007 г.** Вярхоўны суд Беларусі адмовіў праваабаронцам у задавальненьні скаргі на рашэньне Міністэрства юстыцыі аб адмове ў дзяржаўнай рэгістрацыі ГПА "Вясна".
26 лютага 2009 года Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь адмовіла ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднаньня "Наша Вясна".

**24 сакавіка 2010 г.** праваабаронцы Валянцін Стэфановіч, Алесь Бяляцкі і Ірына Тоўсцік, а таксама журналіст Сяргей Сыс былі затрыманыя супрацоўнікамі АМАПу ля будынка адміністрацыі прэзыдэнта з расцяжкай "Не сьмяротнаму пакараньню", такім чынам выказаўшы свой пратэст на парушэнне Беларуссю сваіх міжнародных абавязацельстваў, выканаўшы смяротныя прысуды.

**20 сьнежня 2010 г.** супрацоўнікі праваахоўных органаў у цывільным забралі з офісу ПЦ "Вясна" усе кампутары і іншую тэхніку. Былі затрыманыя праваабаронцы і назіральнікі Валянцін Стэфановіч, Уладзімір Лабковіч, Наста Лойка, Андрэй Палуда, Зміцер Салаўёў, Сяржук Сыс, Уладзімір Мікалаеў, Алег Жлутка, Канстанцін Старадубец, Віталь Чарняўскі. Іх даставілі ў Першамайскі РУУС сталіцы. Каля 6 раніцы ўсіх 10 затрыманых адпусьцілі з Першамайскага РУУС пасля дачы тлумачэнняў без складання пратаколаў. Дапамогу ў гэтым аказалі прадстаўнікі АБСЕ.

**17 студзеня 2011 г.** ў офісе праваабарончага цэнтру «Вясна», а таксама на кватэры і лецішчы праваабаронцы Алеся Бяляцкага адбыліся ператрусы. Супрацоўнікі КДБ паказалі пастанову, падпісаную пракурорам Менску. Сьледчыя дзеяньні праводзіліся ў межах крымінальнай справы аб падзеях на плошчы 19 сьнежня.

**16 лютага 2011 г.** старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алесю Бяляцкаму вынесена афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння закона за подпісам намесніка Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь М.І. Кукліса. У папярэджанні сцвярджаецца, што дзеянні А. Бяляцкага ад імя праваабарончай арганізацыі "Вясна", якая не прайшла дзяржаўнай рэгістрацыі, супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь. Праваабаронца афіцыйна папярэджаны, што ў выпадку далейшай дзейнасці будзе разгледжана пытанне аб прыцягненні яго да крымінальнай адказнасьці.

**4 жніўня 2011 г.** Алеся Бяляцкага затрымалі на 3 сутак па падазрэнні ў здзяйсьненьні крымінальнага злачынства. Адбыліся ператрусы на офісе "Вясны", на кватэры ў праваабаронцы і на ягоным лецішчы. Алеся Бяляцкага павезлі на допыт у Дэпартамент фінансавых расследванняў.

**12 жніўня 2011 г.** у межах крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 арт. 243 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь - "утойваньне прыбыткаў у асабліва буйным памеры" - старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнту FIDH Алесю Бяляцкаму афіцыйна прад'яўленае абвінавачаньне.

**23 жніўня 2011 г.** на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску былі затрыманыя праваабаронцы Зміцер Салаўёў, Марына Статкевіч, Алег Мацкевіч, Алена Лапцёнак і некалькі актывістаў, якія зладзілі інфармацыйнуюакцыю , дзе заклікалі падпісаць паручальніцтва за Алеся Бяляцкага. Адпушчаныя пасьля тлумачэнняў.

**www. spring96.org**

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.